

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.*

**№4 (258) САКАВІК 2019 ГОД**

ЖЫЦЦЁВЫЯ ГІСТОРЫІ

# ЯК ЖЫВУЦЬ КАЛГАСНІКІ НА ШУМІЛІНШЧЫНЕ

**«Прэзідэнт ведае, як тут простыя калгаснікі?» Дзве жыццёвыя гісторыі людзей з шумілінскіх калгасаў.**

Вартаўнік фермы ў вёсцы Вялікія Ляжні Шумілінскага раёна Уладзімір Старавойтаў «ходзіць у краму, як на выставу»: мужчына ўжо некалькі месяцаў не атрымлівае зарплату. Валянціна Козіна прыехала ў вёску на Шумілінщчыне з Узбекістана: «Некаторым у калгасе адрэзалі святло - няма чым плаціць».

«У краму ходзім, як на выставу»

...Вёска Вялікія Ляжні Шумілінскага раёна – даволі вялікая: тут кантора калгаса, дзве фермы, цялятніка, мехмайстэрні, крама, пошта, ФАП, сталовая.

Мясцоваму жыхару Уладзіміру Старавойтаву – 33 гады, ён вартаўнік на ферме ААТ «Ляжні». З грамадзянскай жонкай Таццянай, інвалідам 3-ці групы, мужчына жыве ў доме, які арандуе па дамове найму ў гаспадаркі.

Цяпер сям'я перабіваецца на пенсію Таццяны – гэта 189 рублёў. Зарплата Уладзіміра – ад 200 да 400 рублёў. Але ў апошні раз ён атрымліваў яе ў снежні – за лістапад.

Жонка Уладзіміра, Таццяна, кажа, што з-за холаду вымушана хадзіць па хаце ў цёплай куртцы і ботах, а спаць у некалькіх кофтах.

Без грошай, па сутнасці, сядзім ужо месяцаў пяць: раней заробак таксама цалкам не давалі, па частках. А корміць калгаснікаў наша сталовая. За кошт яе, родная, і выжываем. Вунь яна, па суседстве – праз дарогу, – паказвае мужчына.

– Гэта як – «сталовая корміць»? Вы туды ходзіце ёсць?

– Ды не ж, – цярпліва тлумачыць Уладзімір. – Ідзем у сталовую, набіраем прадуктаў у кошт зарплаты. У разліковым лісце потым прыпісваюць ручкай, на якую суму ты ўзяў прадуктаў. А як нам без грошай заплаціць за святло, замовіць газ – пра гэта ніхто не думае. У краму ходзім, як на выставу: прыйшлі, паглядзелі, аблізнуліся ды сышлі.

«Было два варыянты: замерзнуць ці згарэць»

У гэтым доме 1983 года пабудовы сям'я жыве па дамове найму - гэта значыць жыллё яны займаюць, пакуль Уладзімір працуе ў ААТ «Ляжні».

– У хаце халодна амаль такая ж тэмпература, як і на вуліцы. Але печку тапіць небяспечна: яна ўся ў вялікіх расколінах, дыміца па-страшнаму, і дым ідзе ў пакоі, дыхаць няма чым, усе сцены і шторы – чорныя. Але зімой, у маразы, на свой страх і рызыку ўсё ж палілі. Так пажар мог здарыцца ў любы момант. У нас тады было два варыянты: замерзнуць ці згарэць. Дзякуй Богу, абышлося.

З нагоды печкі мужчына звяртаўся і ў сельсавет, і ў райвыканкам. – Прыходзіла камісія, абяцалі: нешта тут замажам , а далей сам рамантуй, павінен сам усё рабіць. А які сэнс печку замазваць, калі яе трэба зноў перакладаць? І як я зраблю гэта сам, калі я не пячнік?

– Згодзен, усё гэта трэба, але дзе я вазьму грошы на гэта ўсё?

Але печка – не адзіная праблема ў доме. У ім працякае дах, трэба рабіць новы канёк. А ваду ў здымным жыллё Уладзімір здабывае ... з-пад падлогі. Выглядае гэта так:

– Пад палавымі дошкамі, у дзірцы, – кран. Я ўключаю ваду, яна набіраецца ў вядро, потым выключаю кран. Вада, дарэчы, іржавая. І такую п'е ўвесь калгас.

– Мясцовым уладам не падабаецца, што я ўвесь час дамагаюся справядлівасці. Аднойчы наогул сказалі: что-то табе не падабаецца – здымай свае вокны і дзверы і едзь адсюль, цябе ў гаспадарцы ніхто не трымае. Мне вось цікава, прэзідэнт ведае, як у вёсках жывуць такія простыя, як я, калгаснікі? – разважае Уладзімір Старавойтаў. – Хай бы прыехаў да нас у госці – мы б яму з задавальненнем расказалі пра сваё жыццё. І сталовую сваю, кармільцу, паказалі б.

«Некаторым у калгасе адрэзалі святло – таксама няма чым плаціць»

Валянціна Козіна прыехала ў вёску на Шумілінщчыне з Узбекістана. Перад пенсіяй працавала вартаўніком у школе (яе зачынілі). Чвэрць стагоддзя жыве ў арэндаваным доме. Яго стан – крыху лепей, чым у суседа.

– Дах цячэ, вада капае на лічыльнік – можа быць пажар, але каго гэта хвалюе, акрамя мяне? На шпалерах і столі – усюды мокрыя пацёкі. З веранды цягне холадам, так чым магла, падбіла дзверы: коўдрай, плёнкай, фанерай. Была праблема з адрынай: сценка ўпала, таксама сама забіла дошкамі дзірку.

У калгас па дапамогу па рамонце дома жанчына не звяртаецца. Лічыць, што гэта бескарысна.

Пенсіянерка спрабуе ўладкаваць побыт як можа: «наняць людзей і паставіла печку – у 450 рублёў гэта абыйшлося. Старую пліту замяніла на новую, але грошы на яе мне далі сваякі. Сама б гэтую куплю не здужала».

Валянціна Козіна кажа, што ёй усё ж лягчэй, чым шматлікім аднавяскоўцам: пенсія хай і невялікая, але гэта наяўныя грошы кожны месяц.

– Большасць людзей у вёсцы п'е ад безвыходнасці, таму што не атрымліваюць зарплату. Работнікам патрэбныя жывыя, нармальныя грошы, а не расплата прадуктамі. Можа, каму-то неабходна купіць адзенне, абутак, лекі. Некаторым вунь у калгасе наогул адрэзалі святло – яны не ў стане за яго заплаціць.

Адміністрацыя сельгаспрадпрыемства: «Гэта жудасна – малако ў нас ёсць, а грошай на зарплаты няма»

Намеснік дырэктара па вытворчасці ААТ «Ляжні» Валянціна Яцко сцвярджае, што іх сельгаспрадпрыемства – ня стратнае:

– прадукцыя ў нас ёсць, мы здаем яе Віцебскаму ААТ «Малако», але гэта прадпрыемства не можа з намі разлічыцца за наша сыравіну і завінавацілася. Вось мы і выдаем людзям прадукты ў кошт зарплаты. З-за гэтага інспекцыя па працы кожны месяц накладае штрафы – і на гаспадарку, і на дырэктара. Мы думалі знайсці іншых пакупнікоў на сваё малако, і магілёўская «Бабуліна Крынка» згаджалася яго браць. Але не дазволілі: сыравіну трэба прадаваць заводам у сваім рэгіёне. Замкнёнае кола нейкае. І гэта, па праўдзе, вельмі жудасна!

Нам сёння ў ААТ «Ляжні» працуе

***(працяг на стр. 2)***



СПОРТ

# ЭСТАФЕТА ГАННЫ СОЛЫ

**Біятланістка Ганна Сола з Шуміліна: «Эстафета – гэта асаблівы старт. Гатовая бегаць іх нават хворая і кульгавая»**

Уражаннямі пасля змяшанай эстафеты на ЧЕ па біятлоне ў Раўбічах падзялілася бронзавы прызёр хатняга чэмпіянату Еўропы Ганна Сола.

– У апошні час было столькі слёз, няўдач, крыўд на сябе з-за таго, што не атрымлівалася паказаць добрых вынікаў. Губляла матывацыю, таму што не бачыла пладоў сваёй працы. Але эстафеты – гэта заўсёды асаблівыя старты. Гатовая бегчы іх нават хворая і кульгаючы, – падкрэсліла Ганна. – Учора ўвечары трэнеры спыталі: «пабяжыш, калі што?». Вядома, адказала згодай, хоць зусім нядаўна ляжала з тэмпературай.

– Калі б перад стартам вам сказалі, што Беларусь да апошняга будзе прэтэндаваць на перамогу, паверылі б?

– Заўсёды настройваемся на лепшае. Сёння напярэдадні гонкі ўбачыла, як танчыць сын нашага сервісмэна. Жартам сказала хлопцам: «Гэта будзе наш пераможны танец».

– Калі ў апошні раз перажывалі такія эмоцыі? – рушыла услед пытанне ўсёй камандзе.

– Спытайце ў Дзінары, - аджартаваўся Раман Ялетнаў. – Яна нядаўна зусім.

– Дык ужо год таму, – намякнула на алімпійскі поспех у Пхенчхане Дынара Алімбекова. – Скажу так: камандныя медалі заўсёды асаблівыя.

Нагадаем, што 21 лютага зборная Беларусі па біятлоне выйграла бронзавы медаль хатняга чэмпіянату Еўропы ў змяшанай эстафеце.

Наша забойшчыца Дынара Алімбекова паказала выдатную хуткасць на сваім этапе і пры адным дадатковым патроне перадала эстафету першай.

Замяніўшая Ірыну Крыўко Ганна Сола справілася з адказнасцю і наогул не дапусціла ніводнага промаху, яшчэ павялічыўшы перавагу Беларусі.

**tyt.by**

**Пераклад з расейскай рэдактара**

ЗАРОБКІ

# ЯКІЯ ЗАРОБКІ Ў ЛЯСНІЦТВЕ?

**У Шумілінскім раёне сярэдні заробак ляснічых значна ніжэй, чым па краіне.**

Сярэдні заробак ляснічых Шумілінскага лясгаса склаў 980 рублёў. У той час, як у Клічаўскім лясгасе ляснічыя атрымліваюць 1960 рублёў, у Аршанскім – 2124 рубля, у Кастрычніцкім 2170 рублёў. У сярэднім па Беларусі ляснічыя атрымліваюць 1423 рубля.

Сярэднямесячная зарплата ў сістэме Мінлясгаса у 2018 годзе склала 963 рубля пры плане 933 рублі. Сярэдні заробак за снежань – 1036 рублёў пры плане 978 рублёў.

Міністр ведамства Віталь Дрожжа запатрабаваў асаблівую ўвагу надаваць тым катэгорыям работнікаў, якія непасрэдна звязаныя з працэсам вытворчасці і вядзення лясной гаспадаркі. Леснікі летась атрымлівалі ў сярэднім 866 рублёў, ляснічыя – 1423 рубля, вальшчыкі лесу – 999 рублёў, машыністы харвестэраў – 1448 рублёў. У той жа час у некаторых лягсасах зарплаты былі ніжэй за гэтую адзнаку. Напрыклад, машыністы харвестэраў ў Гарадоцкім лясгасе ў студзені – снежні ў сярэднім атрымлівалі 911 рублёў, у Шумілінскім – 969 рублёў, у Расонскім – 975 рублёў. У той жа час, як у Рэчыцкім – 2052 рубля, у Жыткавіцкім – 2180 рублёў, у Пастаўскім – 2894 рубля.

Такая дыферэнцыяцыя абумоўлена недастатковым аб'ёмам выручкі і паступленняў ад вядзення лясной і паляўнічай гаспадаркі. Папросту недахопам крыніц. І гэта адзін з асноўных пытанняў да асобых нашых кіраўнікоў, так як іх роля – арганізаваць працэс вытворчасці і рэалізацыі прадукцыі для атрымання адпаведных крыніц фінансавання. Каб забяспечыць спецыялістаў, якія хочуць зарабляць, неабходным аб'ёмам работ, лічыць Віталь Дрожжа.

**Ян Вайтовіч**

ЖЫЦЦЁВЫЯ ГІСТОРЫІ

*(пачатак на стр. 1)*
81 чалавек. «Жывёлаводы зарабляюць па-рознаму: і па 400, і па 250 рублёў. Але ў апошнім выпадку да мінімалкі – а гэта сёння 330 рублёў – ім даплочваюць », – тлумачыць намеснік дырэктара.

– Зарплата ў працоўных у калгасе нармальная, лепш нават, чым бухгалтары атрымліваюць, – каментуе галоны бухгалтар.

Гаспадарказдаепадагавору найму каля 70 дамоў. Сярод іх, па ацэнцы Валянціны Яцко, «ёсць усякія, па стану – і лепшыя, і горшыя». Што тычыцца праблем у жыллё ў вартаўніка фермы Уладзіміра Старавойтава, намеснік дырэктара сельгаспрадпрыемства паабяцала:

– Канёк на даху ў гэтым доме трэба абавязкова зрабіць – мы і зоймемся гэтым, як толькі надвор'е добрае ўсталюецца. А што тычыцца ўнутраных работ, то гэта ўжо за кошт кватэраздымшчыка. Печку на добры лад, таксама трэба перабіраць і рамантаваць. Будзем глядзець, што можна зрабіць. Але гэта ўжо да наступнай зімы. І зварачныя работы, каб падвесці ваду, Уладзімір самастойна, вядома ж, не зробіць. Плануем дапамагчы, бо ракавіна на кухню ўжо ёсць.

**TUT.BY**

**Пераклад з расейскай рэдактара**

ГРАМАДСКАЯ БЯСПЕКА

# У КРАІНЕ БЯСПЕКІ

**Работнікі Шумілінскага райаддзела па надзвычайных сітуацыях правялі заняткі ў дзіцячым садку № 4 горпасёлка Шуміліна**

Мерапрыемства праводзілася з мэтай зніжэння гібелі і траўматызму людзей ад знешніх прычын, развіцця ў грамадстве культуры бяспекі жыццядзейнасці. А таксама правядзення адукацыйна-выхаваўчай работы з падрастаючым пакаленнем і прапаганды бяспечных умоў пражывання насельніцтва.

Работнікі Шумілінскага раённага аддзела па НС рэгулярна праводзяць прафілактычныя мерапрыемствы з насельніцтвам.

Адным з накірункаў прафілактыкі, з'яўляюцца навучаннедашкалятасновамі бяспекі жыццядзейнасці дома, на вуліцы, у дзіцячым садзе і г.д. На гэты раз работнікі МНС наведалі дашкалят з яслі-сада № 4 горпасёлка Шуміліна.

З малымі былі праведзены тэматычнае заняткі «У краіне бяспекі». Менавіта праз гульнявыя формы навучання дзеці даведаюцца, чым небяспечны градуснік, чаму нельга забаўляцца на кухні каля пліты, і навошта падчас пажару выбягаць на вуліцу, а не хавацца.

Хлопцы разам з работнікам МНС гулялі ў гульню «Топхлоп»,«Вецер.Вуліца.Пажар», глядзелі навучальныя серыі мультфільма" Чароўная кніга МНС ", і нават на тэлефоне практыкавалі тэлефанаваць у службу выратавання па нумарах 101 і 112

**Алесь Прыбярэжны**

ЭКАЛОГІЯ

# ЗАБАРОНА НА ЛОЎЛЮ ШЧУПАКОЎ

**Гарадоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету інфармуе, што з 9 сакавіка па 25 красавіка ўстаноўлена забарона на лоўлю шчупака звычайнага.**

Да адміністрацыйнай адказнасці будуць прыцягвацца асобы, якія знаходзяцца ў рыбалоўных угоддзях або на прылеглых да іх тэрыторыях, на адлегласці да 1 км ад берагавой лініі рыбалоўных угоддзяў з дадзеным відам рыбы без дакументаў, якія пацвярджаюць законнасць валодання рыбай.

Пры выяўленні парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства просім паведамляць на тэлефон "гарачай лініі" Гарадоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету 8(02139)5-72-10

**"Герой працы"**

КАМУНАЛКА

# ПА ПОЎНЫМ ТАРЫФЕ

**Хто ў Шумілінскім раёне будзе плаціць камуналку па поўным тарыфе?**

Днямі раённая камісія па пытаннях занятасці накіравала ў райвыканкам спісы грамадзян для аплаты камунальнай паслугі гарачага водазабеспячэння па поўным тарыфе.

Апроч таго, на мінулым тыдні раённая прайшлі два пасяджэнні. У Обалі на пасяджэнне былі запрошаны непрацуючыя грамадзяне працаздольнага ўзросту, якія патрапілі ў базу гэтак званых "грамадзян, не занятых у эканоміцы".

З прычыны таго, што гэтыя грамадзяне з'яўляюцца наймальнікамі ці ўласнікамі жылых памяшканняў - яны цяпер, пачынаючы з 1 кастрычніка 2019 года будуць аплачваць ацяпленне па поўных коштах. З імі правялі індывідуальныя гутаркі, растлумачылі асноўныя палажэнні і патрабаванні Дэкрэта №3 "Аб садзейнічанні занятасці насельніцтва". І гэта яшчэ не ўсё. Непрацуючым было прапанавана шэраг розных варыянтах працаўладкавання або іншыя віды самазанятасці. Варта адзначыць, што падобныя выязныя пасяджэнні плануецца правесці ў кожным сельсавеце Шумілінскага раёна.

Як стала вядома, у апошні дзень лютага зноў адбылося пасяджэнне камісіі. На гэты раз разглядаліся незанятыя ў эканоміцы грамадзяне, якія былі выключаны з базы даных, таму што прадставілі неабходныя дакументы, пацвярджаючыя іх занятасць ці наяўнасць падставы для выключэння з базы.

Таксама на пасяджэнні быў прыняты спіс грамадзян для аплаты па поўным тарыфе паслугі гарачага водазабеспячэння ў першым квартале бягучага года. Гэты спіс быў перададзены ў райвыканкам для зацвярджэння. Праўда, спіс яшчэ невялікі і ў яго трапілі толькі сем грамадзян. Нягледзячы на тое, што яны мелі дастаткова часу, каб пацвердзіць сваю занятасць. Да таго ж з імі была праведзена вялікая работа па тлумачэнні патрабаванняў Дэкрэта №3 і прапанаваны ўсе магчымыя варыянты для пацвярджэння занятасці. Аднак яны ўсё роўна ігнаравалі ўсе прапановы ці не змаглі пацвердзіць сваю занятасць.

Надалей камісія працягне сваю працу, бо база незанятых у эканоміцы грамадзян пастаянна ўдакладняецца. Многія грамадзяне былі выключаны з базы на пэўны тэрмін і ім патрэбна зноў пацвердзіць сваю занятасць. Бо спісы на аплату гарачай вады па поўным тарыфе зацвярджаюцца штоквартальна.

**У. Амбросаў**

ПАЖАРЫ

# ЗАГАРЭЛАСЯ ЛАЗНЯ

**Вечарам 20 лютага а палове восьмай гадзіны ў райаддзел па надзвычайных сітуацыях паступіла паведамленне аб пажары лазні па вуліцы Ленінскай у горпасёлку Шуміліна.**

У выніку пажару ў лазні памерам 4х6 м, якая належыць 34 гадоваму грамадзяніну, быў пашкоджаны дах, паталочное перакрыцце, маёмасць і сцены. У самім доме часткова пашкоджана кроквенная сістэма, абшыўка франтона.

Прычынапажарувысвятляецца. Разглядаемая версія прычыны ўзнікнення пажару - парушэнне правілаў эксплуатацыі печаў, цеплагенерыруючых агрэгатаў і прылад.

**Сяржук Крупскі**

**па матэрыялам МНС**

ЗДАРЭННЕ

# ЗГРАЯ ВАЎКОЎ ЗАГРЫЗЛА ЛАСЯ

**У сувязі з гэтым на тэрыторыі Шумілінскага лясгаса Віцебскай вобласці праходзіць масавая паляванне на зграю меркавана з сямі ваўкоў, якая напярэдадні загрызла буйнога лася.**

Гэта адбылося ў раёне вёскі Мікалаева, паведамляюць "Віцебскія весці". Па словах галоўнага ляснічага Дзмітрыя Падляшчука, аперацыя праводзіцца сіламі Бароўскай паляўнічай гаспадаркі Беларускага таварыства паляўнічых і рыбаловаў. Таксама стала вядома, што да рэйду былі прыцягнутыя і добраахвотнікі з Віцебскай і Мінскай абласцей. Улічваючы тыя абставіны, што ваўкі за суткі могуць пераадольваць вялікія адлегласці, перасоўванне зграі актыўна адсочваецца, прымаюцца меры да яе лакалізацыі.

На сённяшні дзень Шумілінскі раён – гэта адзін з рэгіёнаў вобласці, дзе шэрыя драпежнікі нярэдка даюць аб сабе знаць. У мінулым месяцы ўжо адбывалася падобная паляванне, падчас якой было знішчана чатыры небяспечных звера. І хоця вылазкам агрэсіўных ваўкоў даецца энергічны адпор, практыка паказвае, што верагоднасць сустрэць іх пакуль захоўваецца. Нездарма вясковы люд кажа "хутка людзей пачнуць жэрці..." Вылазкамі шэрых драпежнікаў на падворкі сяльчан асабліва занепакоеныя жыхары аддаленых вёсак ў Шумілінскім і Гарадоцкім раёнах.

Апроч таго, не варта забываць, што ваўкі палююць на лясную і палявую жыўнасць, у тым ліку і на шкоднікаў лясной і сельскай гаспадаркі. Але да прыкладу, напасці на буйнога лася для шэрага санітара ваўка – гэта задача хутчэй за ўсё – непасільная. Дарослыя і здаровыя ласі рэдка становяцца іх здабычай, таму драпежнікі дзейнічаюць выбарча. Таму звычайна яны нападаюць на хворых, параненых браканьерамі, саслабелых, знясіленых ад хвароб ці голаду, а таксама старых жывёл. Цалкам верагондна, што менавіта такой лось стаў ахвярай ваўчынага палявання на Шумілшчыне.

Што тычыцца жывёл, якія прыходзяць у вёскі і нападаюць на хатніх сабак, то і тут свае асаблівасці.

Сабака, якая прывязаная на ланцугу або гуляе па вёсцы, становіцца лёгкай здабычай. На такое паляванне часцей выходзяць ваўкі-адзіночкі, якім цяжка здабыць сабе ежу без дапамогі іншых драпежнікаў. Безумоўна, што такія выпадкі палохаюць, аднак нападаў на людзей не было. Чуткі пра тое, што ваўкоў развялося ў лясах настолькі шмат, што з-за недахопу ежы яны робяць набегі на вёскі, таксама суб'ектыўныя. Воўк – гэта найперш дзікая жывёла, якая мігрыруе, прычым за адну ноч можа прайсці да 60 кіламетраў. Паляўніцтвазнаўцы ў гэтым плане валодаюць больш аб'ектыўнай інфармацыяй. Падчас рэйдаў яны сустракаюцца з воўчымі слядамі. Зыходзячы толькі з гэтых фактаў, казаць пра тое, што іх папуляцыя зашкальвае, нельга.

У сваю чаргу, Шумілінскага паляўнічыя не бяздзейнічаюць. У мінулым месяцы яны ўжо здабылі чатыры ваўкі. Зараз пачалі новую аблаву на драпежнікаў і выйшлі на сляды зграі з васьмі ваўкоў. Усталёўваюць іх дзёнкі ў раёне Пушчы, Гусінцаў, Пабеды, Слабады для наступнага абкладання сцяжкамі. Нядаўна падстрэлілі адну ваўчыцу. Але каб аблажыць яшчэ аднаго драпежніка, яго трэба ізноў высачыць і для гэтага праліць не адно вядро поту. На гэтым этапе цяпер задзейнічана група з пяці-шасці вопытных штатных паляўнічых егерскай службы.

**Ян Вайтовіч**

## АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым–зрабіцебесплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

***• Калі прачыталі "Світанак", то калі ласка, перадайце знаёмым.***

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са староніх: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

ПАЛІТАЛОГІЯ

# ВЯЛІКАЯ РАЗМОВА ПРА ЛЕТАШНІ СНЕГ

**Аснову сучаснага глабальнага канфлікту «складае барацьба сучаснага і несучаснага светаў». Гэту думку аўтар «Азбукі паліталогіі» запазычыў з кнігі расійскага эканаміста Уладзіслава Іназемцава «Несучасная краіна». Кніга прысвечаная Расіі. Аднак гэта, калі пагадзіцца з адзіным палітыкам (АП), «наша Расія».**




Можна, зразумела, і не згаджацца, аднак роднаснасць дзвюх мадэляў адмаўляць складана. І першае, што кідаецца ў вочы, — гэта дэфіцыт унутраных крыніц развіцця, што і пацвердзіла «Вялікая размова», якая адбылася 1 сакавіка. Сем з паловай гадзін не хапіла АП для таго, каб патлумачыць, за кошт чаго пад канец наступнай пяцігодкі ВУП Беларусі складзе $ 100 мільярдаў. І гэта нягледзячы на наўпроставае пытанне, якое паступіла ад аднаго з удзельнікаў «размовы».

На працягу стагоддзяў «славянская цывілізацыя», пад якой АП разумее Расію, Беларусь і Украіну, развівалася за кошт знешніх запазычанняў, што не замінала (якім бы дзіўным гэта ні падавалася) фармiраванню пачуцця выключнасці, не перашкодзіла памкненню не столькі даць свету нешта новае, колькі не дапусціць страты ранейшых здабыткаў. Адсюль культ стабільнасці, пакланенне якому і апынулася ў цэнтры «Вялікай размовы».

**Не вёў агітацыю і не збіраецца**

«Нам трэба будзе даць аб'ектыўную ацэнку адносна самых абмяркоўваемых тэмаў, якія асабліва хвалююць людзей і грамадства… А па асобных пытаннях нам трэба кампенсаваць недахоп дакладнай інфармацыі, паток якой штодня абрушваецца на кожнага з нас», — такімі словамі акрэсліў АП мэту «Вялікай размовы».

Мэта агульная, але асобна для СМІ, «якія пазіцыянуюць сябе як незалежныя», гаспадар мерапрыемства нагадаў пра існаванне мяжы дапушчальнага, за «якой парушаецца раўнавага ў грамадстве». Што ж, своечасовы напамін. Да аўтара «Азбукі паліталогіі» гэта мае непасрэднае дачыненне.

Не абышлося і без панегірыкаў на адрас «сённяшняга чытача». АП ахарактарызаваў яго як адукаванага, які ўмее аналізаваць, разбіраецца «ў тонкасцях журналісцкіх маніпуляцый» і авалодаў мастацтвам «хутка счытваць, чые ці якія інтарэсы стаяць за анонсам праграмы або загалоўкам навіны».

Ці існуе такі чытач у прыродзе — пытанне спрэчнае. Але калі існуе, дык незразумела, чаму пры наяўнасці чытачоў, здольных адрозніваць праўду ад хлусні па адных толькі загалоўках, так званыя «фэйкавыя навіны», нават пасля іх выкрыцця, здольныя «бударажыць людзей»?

Зразумела, не абышлося без развагаў пра маючыя адбыцца парламенцкія і прэзідэнцкія выбары.

У несучасных краінах — а такіх у свеце большасць — выбары не маюць на мэце рэальную канкурэнцыю кандыдатаў, якія прапануюць выбаршчыкам розныя шляхі развіцця краіны. Прыклад, як правіла, падаюць уладныя кандыдаты. Таму не варта здзіўляцца заяве АП пра тое, што ён у мінулую перадвыбарчую кампанію не вёў агітацыю, дый падчас маючай адбыцца таксама не збіраецца тое рабіць.

Нацыянальная адметнасць выбараў у Беларусі такая, што забяспечваецца высокая яўка выбаршчыкаў і падтрымка канструктыўных кандыдатаў і без адміністрацыйнай мабілізацыі электарату. Навошта ж дарма марнаваць народныя грошы на агітацыю? Выбаршчыкі, якія па анонсах праграм кандыдатаў адназначна разумеюць, чые інтарэсы тыя на самай справе прэзентуюць, у агітацыі не маюць патрэбы.

Строга кажучы, само паняцце «выбары» ў наш несучасны свет прыцягнутае за вушы са свету сучаснага. У нас — не выбары, а галасаванне. «Таму што выбары, — тлумачыць расійскі палітолаг і журналіст Яўгенія Альбац, — гэта не толькі момант, калі вы апускаеце свой бюлетэнь, выбары — гэта на самай справе працэс. Гэта перадвыбарчая кампанія, падчас якой прадстаўнікі розных палітычных партый маюць магчымасць прапанаваць выбаршчыкам розныя кошыкі сваіх прапаноў. Свае праграмы».

І яшчэ адна нацыянальная асаблівасць, пра якую ўвесь час нагадвае кіраўнік дзяржавы: маючыя адбыцца палітычныя падзеі ў нас традыцыйна стануць экзаменамі — і не толькі для АП, але і для ўсіх узроўняў вертыкалі.

Выбары, такім чынам, плаўна трансфармуюцца ў цырыманіял акламацыі (ад лацінскага слова «acclamatio» — «крык», «усклік», «вокліч»). Так у старажытным Рыме гарадское насельніцтва воклічамі выказвала адабрэнне або незадавальненне наконт пастановаў уладаў, якія зачытваліся ў цырку. Можна прыгадаць і казакоў з іх ухвальнымі воклічамі «люба!» на Вайсковым коле.

**Адгадаць з трох разоў**

Несучасныя краіны любяць укідваць у інфармацыйную прастору пытанні, якія не маюць на ўвазе адмоўнага адказу, а калі і маюць, дык выключна з боку «нацыяналістаў», «пятай калоны», «ворагаў народа» і да т.п. Гэтым, у прыватнасці, тлумачыцца перакос знешнепалітычных пытанняў над эканамічнымі.

Вернемся ў Нацыянальны выставачны цэнтр «Белэкспа», дзе праходзіла «Вялікая размова». «Вы ўсе ведаеце, што знешняя палітыка Беларусі шматвектарная і праводзіцца выключна ў інтарэсах забеспячэння бяспекі і захавання міру на нашай планеце. Мы супраць любых праяваў агрэсіі, як ваеннай, так і на злобу дня — інфармацыйнай».

Хто і што тут можа запярэчыць? Гэта ж не публічна дыскутаваць наконт эфектыўнасці палітыкі ў галіне падаткаабкладання або фарміравання расходнай часткі бюджэту, як гэта робіцца ў сучасных краінах. Але ідзем далей.

«Па перыметры нашай мяжы ўзнікаюць новыя кропкі напружанасці. Дагаворы, якія забяспечвалі баланс ваенных сіл на планеце, разыходзяцца па швах. У разгары новая гонка ўзбраенняў», — палохае журналістаў і экспертаў АП. А каб быць пераканаўчым, ён пераходзіць да тэмы падвойных стандартаў краін NATO. Польшча, паводле яго словаў, мае намер выдаткаваць

*(працяг на стар. 4)*

ЗАРОБКІ

# КОГДА БУДЕМ ЗАРАБАТЫВАТЬ «ДОСТОЙНУЮ» ЗАРПЛАТУ?

**По производительности труда Беларусь в пять раз отстает от стран Евросоюза, отмечают авторы Концепции национальной стратегии устойчивого развития Республики Беларусь до 2035 года.**

Руководитель Аналитического центра «Стратегия» Леонид Заико не согласен, что производительность труда в стране настолько ниже, чем в Евросоюзе. Он говорит, что этот показатель часто отождествляют со стоимостными величинами цен на продукцию и ее количеством, которое создает один работник. Но это не производительность труда, а выработка.

— В советские времена расчеты производительность труда инженеров, котроллеров, операторов крупных предприятий оценивали как 0,75 от производительности условно американского работника. Для вспомогательных работ это было 0,25. То есть если смотреть на структуру рабочей силы, то мы отставали в четыре раза. А если сейчас пишут, что у нас 20% от европейской, то я хочу спросить, чем вы это меряли? – говорит Леонид Заико.

Как правило, чем выше производительность труда человека, чем он больше создает товаров и услуг за единицу времени, тем выше у него зарплата.

Для устойчивого экономического роста, по подсчетам экспертов, производительность труда должна увеличиваться хотя бы на 5% в год.

Традиционно в Беларуси называют проблемой отрыв роста заработных плат от производительности труда. Есть предприятия, где из-за излишней занятости зарплаты сильно завышены по сравнению с вкладом работников в результаты производства.

Но ситуация неоднозначна, а порой прямо противоположна. За общими показателями производительности труда может скрываться иная ситуация в разрезе отдельных предприятий и отраслей экономики.

– Есть одно конкретное крупное предприятие, которое занимает неплохие позиции внутри страны и на рынках третьих государств, имеет хорошие показатели прибыли по данным финансовой отчетности, но зарплаты у рабочих невысокие. И за последние пять лет в долларовом эквиваленте росли заметно меньше по сравнению с динамикой роста средней зарплаты по стране. Причем, если замерить производительность труда на аналогичном предприятии в стране ЕС, не исключено, что она может совпадать, – приводит пример аналитик исследовательской группы Businessforecast.by Александр Муха.

Чтобы подстегнуть рост производительности труда, руководству страны и принимающим решения предстоит работать над целым комплексом задач, считает аналитик.

— Это и экономические реформы, структурные рыночные реформы, направленные на повышение конкурентоспособности и качественные изменения структуры национальной экономики, и положительные социальные изменения в белорусском обществе, — объясняет Александр Муха.

То есть это вопрос структурной перестройки национальной экономики. Повысить производительность труда можно за счет более активного привлечения иностранных инвестиций, раскрепощения деловой инициативы внутри страны. Это сокращение уровня коррупции и экономических преступлений, уменьшение социального расслоения в обществе, изменение подходов к формированию зарплат, выработка актуальных мотиваций и стимулов к работе, создание более благоприятных условий для ведения бизнеса.

— Здесь же углубление региональной экономической интеграции в формате Евразийского экономического союза, а также долгожданное присоединение Беларуси ко Всемирной торговой организации, — добавляет Александр Муха.

Если двигаться по всем этим фронтам, то можно ожидать более оптимистичных экономических показателей. Ключевым из них экономист называет среднедушевой валовой внутренний продукт по паритету покупательной способности.

— Нужно расти немного быстрей. Для этого важно поощрять инвесторов и бизнес в создании проектов, даже с нуля, где будут рабочие места с более высокой добавленной стоимостью – соответственно более высокой производительностью труда, более высокой заработной платой, — говорит Александр Муха.

Пока же более низкий уровень производительности труда в Беларуси по сравнению с развитыми государствами приводит к более низкому уровню социального и экономического развития. Это сказывается на многих возможностях белорусов, которые зависят от уровня доходов.

— Очевидно, что при более высоких доходах, которые возможны при более высокой производительности труда, белорусы могут обеспечить себе более качественную и достойную жизнь, — отмечает аналитик исследовательской группы Businessforecast.by.

Более того, открывшиеся возможности позволят многим белорусам преодолеть ловушку бедности.

**Наталья Колесниченко**
**Завтра твоей страны**

ПАЛІТАЛОГІЯ

*(пачатак на стар. №3)*

на абарону каля $ 50 мільярдаў. У той жа час на любы крок у адказ Беларусі і Расіі ў напрамку ўмацавання ўласнай ваеннай моцы ў Еўропе пачынаюць «гвалтам крычаць».

АП заклікаў незалежныя СМІ быць аб'ектыўнымі і ставіцца да падобных фактаў з пункту гледжання нейкага аднаго крытэру. Своечасовы заклік. Грэх ім не скарыстацца. На працягу 5 гадоў аўтар «Азбукі паліталогіі» быў удзельнікам канферэнцыі «Рубікон». Канферэнцыя праходзіла ў Таліне ў будынку парламента. З уступным словам да ўдзельнікаў канферэнцыі, як правіла, звярталася міністр замежных спраў Эстоніі. Натуральна, яна казала пра міралюбную палітыку краіны і рэгулярна скардзілася на тое, што, у адпаведнасці з нормамі NATO, Эстонія вымушаная марнаваць на абарону 2% дзяржаўнага бюджэту.

Я не эксперт па Эстоніі, але выключна знешне аб'ектыўнасць слоў міністра пацвярджала адсутнасць людзей у ваеннай форме на вуліцах Таліна. Аднак у адзін з маіх прыездаў гатэль, у якім размяшчаліся ўдзельнікі канферэнцыі, быў перапоўнены афіцэрамі NATO (пераважалі немцы). Прапаную чытачам з трох разоў здагадацца, у які год здарылася гэта неардынарная падзея.

Той, хто назаве 2014-ы, не памыліцца. З таго ж года калоны ваеннай тэхнікі сталі часткай інтэр'еру эстонскіх дарог. Але што тут прычына, а што следства? Ці не час АП разабрацца з адказам на гэтае пытанне і назваць рэчы сваімі імёнамі, замест рэгулярных развагаў на тэму адсутнасці ў Еўропе захаплення з нагоды «абранага Беларуссю курсу на пабудову сацыяльна арыентаванай дзяржавы, падпарадкаванай інтарэсам чалавека».

**Разбой на месцах**

У чым АП мае рацыю, дык гэта ва ўзмацненні расколу ў свеце. Калі ў 1800 годзе, калі верыць англійскаму статыстыку Ангусу Мэдзісану, паводле ВУП на душу насельніцтва перадавыя краіны апярэджвалі адсталыя ў 4 разы, то ў цяперашні час — у 100 разоў, і разрыў працягвае павялічвацца.

ЗноўпрацытуюІназемцава:«Сучасныя краіныстановяццаўсёбольшсучаснымі (у тым ліку выкарыстоўваючы рэсурсы і грамадзян астатняга свету), а несучасныя — усё больш архаічнымі. Мы прысутнічаем пры нараджэнні свайго роду «расколатай цывілізацыі», дзе імкліва фармуюцца полюсы багацця і беднасці, поспехаў і няўдач. У такіх умовах замацаванне краіны сярод адкрыта несучасных, якое ажыццяўляецца ў інтарэсах вузкага кола цалкам глабалізаванай эліты, уяўляе сабой прыклад маштабнай нацыянальнай здрады».

У беларускай несучаснасці ёсць свае бенефіцыяры. Мабыць, самы яркі момант «Вялікай размовы» — аповед АП пра прынцыпы размеркавання зямлі ў Беларусі.

Даўно ўжо ні для каго не з'яўляецца таямніцай, што без рашэння АП ні кавалка зямлі ці лясных угоддзяў у нас не атрымаць. Чаму? А таму, што на месцах «разбой пачынаецца». «Вось так і з усёй уласнасцю».

Але прабачце, а хто пачынае разбой на месцах: нацыяналісты, прадстаўнікі так званай «пятай калоны» або прызначаныя асабіста АП чальцы ўладнай «вертыкалі» ў асобе кіраўнікоў раённых і абласных адміністрацый?

Адказ відавочны, бо нічога больш несучаснага, чым уладная «вертыкаль» у пытаннях кіравання ў наш час няма

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы Час"**

ГЭТА ТАМ

# ФИНСКИЕ УРОКИ ДЛЯ БЕЛОРУССКИХ ВЛАСТЕЙ

**Дождемся ли мы когда-нибудь добровольных отставок правительства?**

Премьер-министр Финляндии Юха Сипиля подал прошение об отставке правительства. Причиной отставки послужила неудачная реформа здравоохранения и соцобеспечения. Кабмин Финляндии не смог согласовать позиции по ней, сообщает Финляндское информационное агентство.

Беларусь — не Финляндия. У нас, говорят, свое понятие спокойной и нормальной жизни. И все же сравнение просится. Интересно, сколько раз в нашей стране сменилось бы правительство, если бы власти страны начали придерживаться финских стандартов?

А поводов для прошения об отставке у нас хоть отбавляй. Сколько раз реформировалась система образования? И каков итог этих бесконечных реформ?

А белорусская система здравоохранения, сотрясаемая коррупционными скандалами?

А модернизация деревообработки и цементных заводов, закончившаяся пшиком и огромными убытками?

Примеры можно приводить долго, но факт остается фактом — пример Финляндии для нас — словно привет из параллельной реальности. Власти вроде бы начали открыто говорить о провалах в экономике. Но брать на себя ответственность за это они явно не торопятся.

**Кирилл Иванов**
**«Солидарность»**

УЛАДА

# ДЫКТАТУРА — БРЭНД БЕЛАРУСІ

**Прэс-сакратарка кіраўніка Беларусі ўзялася за апраўданьне беларускай дыктатуры.**

**Знойдзены брэнд Беларусі**

Шмат гадоў беларускае грамадзтва шукае нацыянальную ідэю. Дзеля гэтага працуюць цэлыя дзяржаўныя інстытуты, правялі шмат ток-шоў на БТ. Некалькі канфэрэнцыяў было прысьвечана пошуку брэнду Беларусі. За турыстычны брэнд Менску адной замежнай фірме нават заплацілі нямалыя грошы. Зь Вялікай Брытаніі выпісвалі цэлага лорда Бэла, каб прапіярыць лукашэнкаўскую Беларусь у Эўропе. І ўсё марна.

І вось эўрыка. Прэс-сакратарка Аляксандра Лукашэнкі Натальля Эйсмант адным скокам вырашыла праблему, над якой мучыліся сотні інтэлектуалаў. Яна проста пасароміла іх. І цяпер краіна можа спаць спакойна. Сп-ня Эйсмант вызваліла беларусаў ад невыноснага маральнага цяжару. Сякера аказалася пад лаўкай, а раяль стаяў у кустах. Бо, як вядома, усё геніяльнае — простае.

Вось што значыць быць у адным інтэлектуальным полі з чалавекам, пра «маштаб асобы, маштаб мысьлі» якога Натальля выказваецца з вялікім піетэтам і прыдыханьнем. Бо свой магічны арэол ён распаўсюджвае на сваё атачэньне.

«Мне здаецца, мы ўжо так часта вымаўляем гэтае слова, што дыктатура — гэта ўжо наш брэнд», — сказала сп-ня Эйсмант у эфіры АНТ. Вось яна — мудрасьць вякоў.

Інтэрвію прэс-сакратаркі ў перадачы «Маркаў. Нічога асабістага» цікавае менавіта яе шчырасьцю. «O sancta simplicitas» ( «О, сьвятая прастата!») — сказаў Ян Гус на вогнішчы, калі ўбачыў, што нейкая бабулька у прастадушнай старannасьці кінула ў агонь гальлё. Сьвятая прастата Эйсмант таго самага кшталту.

**Магія дыктатуры**

Ёсьць такая зьява, як «магія дыктатара». У тэлесэрыяле «Гульні тронаў» запомнілася такая фраза: «Улада — гэта цень чалавека на сьцяне. Чалавек можа быць маленькі, а цень вельмі вялікі». Гэта якраз беларускі выпадак.

Працуючы пэўны час з Лукашэнкам, Эйсмант пачынае пераймаць стыль мысьленьня, паводзінаў, нават лексыкон шэфа. Вось прыклад. Сярод іншага Маркаў запытаўся ў Натальлі, паводле якога прынцыпу адбіраліся журналісты, экспэрты на «Вялікую размову з прэзыдэнтам», а таксама якім чынам там задаваліся пытаньні. «Калі б я адбірала пытаньні і тэмы, мне прэзыдэнт проста галаву адкруціў бы», — прастадушна адказала Эйсмант.

Шмат разоў мы чулі ад Лукашэнкі падобную тэрміналёгію: «па мордзе даць», «зьвернем галаву», «ногі паадкручваем», «рукі паадсякаем» і інш. І вось цяпер з вуснаў прыгожай, інтэлігентнай жанчыны гучыць жаргон, слэнг крымінальных разборак. Гэта адбываецца падсьвядома, на аўтамаце. З кім павядзесься...

**Прыклады маштабу асобы Лукашэнкі**

Яшчэ адзін цікавы сюжэт інтэрвію. Эйсмант, апавядаючы пра маштаб асобы Лукашэнкі, кажа: «Наблізіцца да гэтага ўзроўню генэраваньня ідэяў вельмі складана і нават, напэўна, немагчыма».

З гэтай нагоды мой калега Віталь Цыганкоў піша у фэйсбуку: «На гэтым момансе я нават унутрана напружыўся, чакаючы, пра што ж яна зараз раскажа. Можа, пра выпрацоўку стратэгіі разьвіцьця краіны, ці стварэньне нацыянальнай ідэі, ці там хаця б плян пашырэньня экспарту. І тут Эйсмант раскрывае „маштаб ідэяў" — аказваецца, размова ідзе пра навагодні баль і пра хакейную сэрыю. Маштаб зашкальвае, лішне казаць».

Сапраўды, прыклады, закліканыя паказаць маштаб асобы Лукашэнкі, проста забойныя. Сп-ня Эйсмант выдае за нестандартнасьць, крэатыўнасьць мысьленьня элементарны панскі капрыз. Маўляў, хачу паглядзець, як Качанава будзе танчыць з Румасам (Лукашэнка сам пра гэта расказаў 1 сакавіка). І ўся дзяржаўная машына закруцілася, каб задаволіць нораў валадара.

Ці яшчэ адно дзіцячае жаданьне арганізаваць сэрыю хакейных гульняў паміж зборнай экстралігі і камандай «Дынама-Мінск». Тры гульні дзеля аднаго гледача. Тое, што студэнтаў і школьнікаў нагналі на арэну, — ня лічыцца. І хакеісты «Дынама-Мінск», траўмаваныя, у разабраным стане пасьля заканчэньня сэзону, нібы артысты прыгоннага тэатру, былі вымушаныя гуляць.

**Анамалія прымаецца за норму**

Але насамрэч праблема глыбейшая, чым абэрацыя зроку прэс-сакратаркі дыктатара (цяпер гэты тэрмін легалізаваны). Рэч у тым, што вырасла цэлае пакаленьне людзей, якія, акрамя дыктатуры Лукашэнкі, больш нічога ня бачылі, ня чулі, ня ведаюць. А Натальля Эйсмант — толькі прыгожае люстэрка, больш-менш адэкватнае адлюстраваньне гэтага фундамэнтальнага працэсу. На гэтым і палягае беларуская драма, што анамалія пачынае прымацца за норму.

Гэта ня мудрасьць вядомага філёзафа Валянціна Акудовіча, які разважае пра вялікі прагрэс з той нагоды, што беларусы ўпершыню за шмат вякоў займелі свайго ўласнага дыктатара. Гэта хутчэй сьвядомасьць простага савецкага чалавека, які сапраўды лічыў нязграбнага вусатага людажэра, што дрэнна гаварыў па-расейску, «правадыром усіх народаў», а данос на суседа разглядаў як грамадзянскі абавязак.

«Мы бачым, што адбываецца навокал, — хаос, часам беспарадак. Я, можа, нейкую парадаксальную рэч скажу, нечаканую, але часам мне здаецца, што ня сёньня дык заўтра, але пасьлязаўтра дакладна ў сьвеце можа паўстаць запыт на дыктатуру. Бо за дыктатурай у нашым сёньняшнім разуменьні ў першую чаргу мы бачым, на мой погляд, парадак, дысцыпліну і абсалютна нармальнае і спакойнае жыцьцё», — лічыць прэс-сакратар.

Паўгалодны савецкі калгасьнік, атрымліваючы за працу пустыя «працадні», таксама лічыў, што жыве ў самай шчасьлівай краіне сьвету, што ўвесь сьвет яму зайздросьціць і марыць ісьці тым жа шляхам. Тут мы назіраем «стакгольмскі сындром» вялікай часткі беларускага грамадзтва. Гэта калі ахвяры гвалту пачынаюць адчуваць сымпатыю да гвалтаўнікоў. Шмат беларусаў сапраўды лічаць, што выбары, такія, напрыклад, як цяперашнія ва Ўкраіне, — гэта «вакханалія», а тое, што адбываецца ў Беларусі пад выглядам выбараў, — гэта якраз норма, бо парадак і спакой. У гэтым сэнсе шчыраваньні Натальлі Эйсмант ёсьць цікавым дакумэнтам эпохі.

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 16.03.2019 у 17.30**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.